


**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 44 (274) — Нядзеля 30 кастрычніка 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


# Перад другой Жэнэвай

Сяньня, напярэдадні другой Жэнэвы, кажны шчыры й сьведамы антыкамуністы ня можа не адчуваць непакою, што й гэтая нарада можа стацца сукцэсам Масквы. Праўда, апошнія выступленьні заступніка прэзыдэнта Задзіночаных Штатаў Ніксона ды дзяржаўнага сакратара Далеса былі ўтрыманыя ў духу наважанага супраціву савецкай канцэпцыі разьвязаньня пякучых праблемаў, аднак вельмі сумлеўна, ці Далес навет зможа паставіць свае тэзы на парадак дня 2-й жэнэвскай нарады. Можна спадзявацца, што заходнія дыпляматы будуць намагацца пераканаць Молатава, што падзел Нямеччыны зьяўляецца найбольшай небясьпекай у Эўропе. Гэта незапярэчная праўда, і навет можна спадзявацца, што Молатаў з гэтым згодзіцца тэарэтычна, аднак у практычным правядзеньні аб'еднаньня думкі заходніх дыпляматаў і Молатава напэўна дыямэтральна разыйдуцца. Таму можна быць амаль пэўным, што гэтае пытаньне адложацца надалей, калі, як піша маскоўская «Праўда», «для гэтага створыцца адпаведная атмасфэра ў міжнародных адносінах». Гэтая «адпаведная атмасфэра», паводля камуністычнай прапаганды, створыцца тады, як будзе створана эўрапэйская сыстэма бясьпекі, і трэба спадзявацца, што гэта будзе галоўнай тэмай жэнэўскай нарады. На гэтым будзе настойваць Молатаў.

Мы-ж, маючы сумнае дасьветчаньне зь першай жэнэўскай нарады ў ліпені г. г., можам спадзявацца, што Молатаў зможа правесьці свае дамаганьні. Мы былі-б вельмі рады, каб памыліліся ды наш пэсымізм ня спраўдзіўся.

Цяпер вернемся да таго, што нам найбліжэйшае і найбольш баліць. Вось-жа хоць нас вельмі цешылі выказваньні Далеса й Ніксона адносна паняволеных народаў Усходняе Эўропы і хоць з самой лёгікі выплывае, што, калі гаварыць аб небясьпецы падзелу Нямеччыны, дык трэба казаць, што й падзел Эўропы ня менш небясьпечны за падзел Нямеччыны, аднак ня варта рабіць ілюзіяў, што гэтае пытаньне будзе ў Жэнэве паважна разглядацца. Ведаем, як наважана супрацівіўся Булганін на першай жэнэўскай нарадзе, калі прэзыдэнт Айзэнгаўэр, унёс прапанову паставіць на парадак дня праблему самавызначэньня народаў Усходняй Эўропы. Для Молатава гэта пытаньне нядыскусыйнае, і найбольш праўдападобна, што заходнія дыпляматы яго тактоўна прамоўчаць.

Некаторыя публіцыстыя выказваюць пагляд, што 2-я жэнэўская нарада будзе больш рачовая ды што ейным вынікам будзе канкрэтнае разьвязаньне прынамся больш пякучых праблемаў. Бо калі-б да гэтага не дайшло, можа наступіць канчальны зрыў і ліквідацыя так званага «духу Жэнэвы». Гэты няшчасны «дух Жэнэвы», разьдзьмуты камуністычнай прапагандай, спрычыніў вольнаму сьвету столькі шкодаў, што трэба было-б толькі цешыцца зь ягонае ліквідацыі. Аднак-жа ў праектах і плянах заходніх дыпляматаў мы ня бачым ані ценю наважанасьці спыніць гэты хвараблівы стан, які хочуць называць «адпружаньнем». Калі-б навет штось вынікла канкрэтнае, будзе гэта коштам нейкіх уступкаў ды станецца яшчэ аднэй перамогай савецкай дыплямацыі.

На Захадзе складаецца вельмі памылковае пераканацьне, што камуністычны блёк надта баіцца паўстаньня нямецкіх збройных сілаў. І таму ўзьнікаюць фантастычныя пляны даваць Савецкаму Саюзу шырокія гарантыі бясьпечнасьці з боку Нямеччыны. Хоць Булганін даволі бесцэрэмонна высьмяяў гэтыя праекты, заходняя дыплямацыя з маньяцкай упорыстасьцяй яшчэ вязе іх у сваіх чамаданах у Жэнэву. Рэч зразумелая, Молатаў гэтага тавару ня купіць.

Савецкі ўрад мае далёкія пляны й рэалізуе іх кансэквэнтна. Калі Масква чагось баіцца, то перадусім амэрыканскіх базаў у Нямеччыне й іншых краёх Эўропы. Таму галоўна яна імкнецца да маральнага й фізычнага раззбраеньня заходняга блёку і ў гэтым выпадку Саветы могуць згадзіцца на далёкайдучае зьменьшаньне сваіх собскіх збройных сілаў, а навет на кантроль над раззбраеньнем, хоць сабе й паводля амэрыканскага пляну. Пры сыстэме дыктатуры яны заўсёды ў вадпаведным мамэнце змогуць змабілізавацца й узброіцца хутчэй чымся дэмакратычны сьвет. Калі да гэтага далічыць, што Кітай, які знойдзецца паза кантролем, а які Саветы могуць выкарыстаць як базу да збраеньня, — небясьпека савецкага праекту раззбраеньня станецца больш выразнай.

Таму можна прадбачыць, што ў Жэнэве Молатаў будзе намагацца праводзіць дзьве праблемы: раззбраеньня і гэтак званага пашырэньня сувязяў паміж Усходам і Захадам. Абедзьве для камуністых выгадныя, а для Захаду — нажаль — атракцыйныя.

Дзеля зусім зразумелых прычынаў, камуністычная прапаганда аднеслася варожа да артыкулу заходня-нямецкага міністра замежных справаў фон Брэнтано. Артыкул гэты пад шматкажучым загалоўкам — «Небясьпечнае разладаваньне напружаньняў» — перасьцерагае заходні сьвет перад магічным уплывам савецкае кампаніі міру й зазначае, што занадта вялікая гатовасьць Захаду паверыць гэтай кампаніі хавае ў сабе сьмяротную небясьпеку, пры якой «разладаваньне» можа абярнуцца ў працэс раскладу й разбурэньня, а ў канчальным выніку — у гангрэну. Дай-жа, Божа, каб гэтыя разумныя словы ня былі голасам на пустыні!

Аднак, як мы назіраем, Захад гатоў верыць хвальшывай савецкай мэтамарфозе. «Сьвет жадае, каб яго ашукоўваць, дык давай яго ашукаем!» — кажуць крамлёўскія верхаводы ды, як бачым ім гэта часткова ўдаецца. Тымчасам у заходнім сьвеце пануе думка, што Масква пераканаўшыся, што паміж двума блёкамі асягнутая такая раўнавага сілаў, у выніку якое вайна сталася немагчымай, выракаецца цяпер апанаваньня сьвету ды перастаўляецца на «мірнае спаборніцтва». Вось-жа ў гэтай веры ў гэткі абсурд і ляжыць вялізарная небясьпека для Захаду.

Мэты савецкай палітыкі заўсёды і ўва ўсім супрацьлежныя да палітыкі дэмакратычнага сьвету і ніколі ў нічым зь ёй ня сходзяцца. Гэта пэўнасьць, якая не павінна была-б выклікаць ніякага сумлеву. Аднак Захад апартуністычна хоча верыць, што ёсьць інакш, і ў гэтай веры ён ня хоча верыць самому Хрушчову, які так нядаўна сказаў: «Калі хто-небудзь думае, што нашы ўхмылкі азначаюць адмову ад навукі Маркса-Леніна або зыход з нашага камуністычнага шляху, дык ён абдурвае сам сябе» Гэты-ж самы Мікіта Хрушчоў нядаўна сказаў яшчэ больш вобразна: «Савецкі лад не зьмяняецца й ня зьменіцца, пакуль рак ня сьвісьне!».

Захад-жа павінен у гэтым выпадку паверыць Хрушчову ды ўсьведаміць сабе, што як доўга існуе сьвет, ніхто рака не навучыў сьвістаць. А ўсьведаміўшы гэта, зрабіць у Жэнэве адпаведныя высновы...

**пс**

# Гады мінаюць...

«Дні надходзяць, дні праходзяць, дні лятуць...» — сумна гучаць словы нашае эміграцкае песьні. Здаецца, яшчэ так нядаўна пры словах: «...Трэйці год, як на выгнаньні ў чужыне...» мімавольна апаноўвала трывога й у сьведамасьці зарысоўвалася гэтая бясконцая адлегласьць часу: «трэйці год!..» А колькі яшчэ наперадзе?

Міналі дні, гады... Кажуць, што ніводнае стварэньне на сьвеце ня можа столькі перацярпець, ня можа так зжывацца й прыстасоўвацца да дадзеных умоваў жыцьця, як чалавек. Зрэшты, няма дзіва, мы-ж адзіныя пакуль-што на зямлі, якія маем манаполь на розум і інтэлігенцыю ў поўным значэньні гэтага слова.

«...**Шмат** гадоў, як на выгнаньні ў чужыне...» — ад нейкага часу зьмянілі мы словы ў гэтым радку песьні. Ня важна колькі гэтых гадоў: тры, восем дванаццаць... хопіць, што — шмат. А ў міжчасе прыстасоўваліся да ўмоваў. І прыстасаваліся, ясна, як хто мог. Калі йдзе аб матар'яльны бок, дык бальшыня з нас маецца сяньня лепш, чымся калісьці на бацькаўшчыне. Некаторыя запярэчаць гэтаму — але мы падкрэсьліваем, што гэта тычыцца бальшыні, значыць ня ўсіх. Затое хутчэй памылімся, калі скажам, што **бальшыня** з нас не пакідае думкі аб вавароце ў будучую вольную Беларусь. Бязумоўна, і тут могуць быць галасы супраць, але... будзьма рэальнымі: эміграцыя ня новае зьявішча ў гісторыі, і хопіць глянуць у мінулае, каб пабачыць, **што** робяць гады, асабліва, калі іх ужо ня лічыцца, а папросту кажацца «шмат...».

Мо хто падумае, што тут зноў будзе мова аб «сумлевах», «распакоўваньні» і г. д. Вось-жа не. Мы хочам тут закрануць іншы бок нашае эміграцыйнае рэчаістасьці, а пайменна: нашае духовае лучнасьці зь беларускім народам, бацькаўшчынай.

Шмат з нашых суродзічаў на эміграцыі ўважае, што непакіданьне думкі аб вавароце на вольную бацькаўшчыну зьяўляецца сьвятым абавязкам праўдзівага патрыёты. Не пярэчым. Але паставім пытаньне: Якую карысьць будзе мець вольная Беларусь, калі ў ейныя межы аднаго дня вернецца пару сотак нейкіх чужынцаў беларускага паходжаньня?

Гады йдуць... Мы знаем Беларусь такой, якой была яна да 1944 году. Уяўляючы-ж сабе **будучую** Беларусь, некаторыя з нас рысуюць у думках нейкую фантастычную краіну, амаль утопію, дзе ўсё расьцьвітае ў багацьці, дзе свабода, справядлівасьць, дзе няма ні бедных, ні нешчасьлівых і г. д. Не аднаму эмігранту здаецца, што яго будуць там вітаць з кветкамі й музыкай, як змагара, які столькі пацярпеў для Бацькаўшчыны... Не адзін былы старшыня воласьці, а цяперашні эмігрант, аўтаматычна ўяўляе сябе ў ролі будучага начальніка раёну ці павету з самага толькі факту прабываньня на эміграцыі. Прыпамінаецца гутарка з адным знаёмым, які пасьля нейкага часу ўсё-ж мусіў прызнаць, што ў нашай будучай дзяржаве «трэба будзе прыцягнуць да супрацы й былую бальшавіцкую (не беларускую, а даслоўна — бальшавіцкую) інтэлігенцыю, бо нашая эміграцыя замалая, і мы вярнуўшыся ня зможам абсадзіць усіх пляцовак». Прыклады такіх «мудрых» разважаньняў можна цытаваць у бесканцовасьць.

Што мы, Беларусы, маем фантазію і любім паддавацца лятуценьням — гэта рэч ведамая. Аднак усё мае свае межы. І там, дзе мы іх пераступаем — робімся сьмешнымі.

Вось-жа 15 гадоў (а колькі іх будзе ў суме — мы яшчэ ня ведаем) эвалюцыі, і то прысьпешанай, хоць і вонкавымі, абставінамі, нашага народу шмат хто з нас яшчэ ня толькі не дацэньвае, але ня рэдка й зусім не бярэ на ўвагу. Некаторыя ўважаюць, што хопіць, каб камуністычны рэжым разваліўся, як усё, што за гэтыя гады адбылося і напластавалася на псыхіку народу — адыйдзе ў нябыт. Так ставіць справу — гэта верыць, што ў часе можна таксама свабодна рухацца, як і ў прасторы: разваліўся камунізм — значыць пачынаем усё нанава ад першай сусьветнай вайны.

У сучаснай эвалюцыі нашага народу, мы зашмат вагі прывязваем да камуністычнага рэжыму, які нам здаецца адзіным дзейнікам эвалюцыі. Мала гэтага, нярэдка з-за гэтага рэжыму мы ня бачым самога народу. Эвалюцыя-ж адбываецца заўсёды — рэжым надае ёй толькі той ці іншы кірунак. Калі-б, скажам,


(Заканьчэньне на 4-ай бачыне)


# Цьвярозыя словы

Ніжэй перадрукоўваем зь «Нью Ёрк Таймсу» артыкул Э. Лаёнса, ведамага амэрыканскага экспэрта савецкае вонкавае палітыкі. Аўтар цьвяроза аналізуе сучасныя мэты савецкае палітыкі і — што голоўнае — прапануе заходняму сьвету правільную рэакцыю. Гэты артыкул тым больш будзе цікавы для нашага чытача, што ён закранае й пытаньне Беларусі. — Рэд.

☆

Наведзіны Цасквы францускім прэм'ерам Форам і міністрам замежных спраў Пінэ, пляінаваныя на 14 кастрычніка, былі «адложаны на неазначаны час» пастановай францускага кабінэту. Гэта было, бязумоўна, дэманстрацыйным пратэстам супраць савецкае падтрымкі аб патрэбе дэбаты ў Задзіночаных Нацыях над пытаньнем Альжыру — тэрыторыі, якая паводля Хартыі ЗН знаходзіцца вонках кампэтэнцыяў гэтае арганізацыі.

Нядаўна камуністычны шэф Мікіта Хрушчоў, усьміхаючыся ў найлепшым «жэнэўскім духу», запэўніў групу францускіх дэпутатаў, якія наведвалі Маскву, што ён лічыць пытаньня Альжыру чыста нутранай праблемай Францыі. Тыдзець пазьней савецкі блёк кінуў свой наважвальны голас, які паставіў Альжыр на парадак дня ЗН.

Гэткім чынам, дэмакратычная Францыя зьяўляецца першай вялікай дзяржавай, што папрабавала на сваім собскім паднябеньні аршэнік крамлёўскага дыпляматычнага мёду. Трэба спадзявацца, што Задзіночаныя Штаты й увесь вольны сьвет не зігнаруе наяўнасьці атруты ў напітку.

Як-бы яна ня была замаскаванай, мэта Масквы ў гэтым выпадку вельмі зламысная. Масква намагаецца распаліць пачуцьці ды выклікаць акты гвалту ў Паўночнай Афрыцы, пашыраючы трэшчыны ў вольным сьвеце.

Акцыя бальшыні дэлегацыяў, якія галасавалі за разгляд альжырскага пытаньня, выясьняецца іхным настаўленьнем да каляніяльнае праблемы. Камуністычныя-ж дэлегацыі дзеілі зь выразным злачынным намерам выклікаць большыя непаладкі, на якіх жывіцца сусьветны камунізм.

Нахабнасьць Молатава, які дэкляміраваў аб «адпружаньні» колькі гадзін пасьля зраднага галасаваньня, папоўнівала абразы паклёпамі. Ягоныя словы йшлі ў пару з савецкай продажай зброі Эгіпту, камуністычнай прапагандай ды інфільтрацыяй у Паўночнай Афрыцы, узмоцненай палітычнай і партызанскай акцыяй у Паўднёва-Ўсходняй Азіі — коратка кажучы, з выкліканьнем непаладкаў і мясцовых войнаў на ўсім сьвеце.

Азызлы ад вынікаў пасьляваенных актаў агрэсіі, адкрыта падтрымоўваючы замахі чырвоных Кітайцаў на незалежнасьць сваіх суседзяў, Крэмль мае нахабства называць сябе абаронынікам каляніяльных народаў. Збудаваўшы найвялікшую ў сьвеце імпэрыю, аснаваную на дзікім тэроры й народабойстве, ён асьмельваецца прыкідвацца, што яго абыходзіць лёс Альжырцаў!

...Савецкі захоп балтыйскіх дзяржаваў, прымушаных сілай «прылучыцца» да СССР, яшчэ дагэтуль ня прызнаны Вашынгтонам ды сьцягам іншых дзяржаваў. Прэцэдэнт, створаны ЗН пастановай разгляду палажэньня ў Альжыры, адчыняе шлях да неадкладнай дэбаты ня толькі над лёсам балтыйскіх краёў, але і ўсходня-эўрапэйскіх сатэлітаў, ды, калі не самой Расеі, дык прынамся **нерасейскіх тэрыторыяў, як Украіна, Беларусь і Грузія** (падкр. наша — Рэд.).


**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**


# У вабароне права азылю

18-га кастрычніка «Нью Ёрк Таймс» зьмясьціў на першай бачыне артыкул пад шматзначным загалоўкам: «Задзіночаныя Штаты занепакоеныя аўстрыяцкай акцыяй супраць уцекачоў». Як падае гэты артыкул, Стэйт Дэпартмэнт атрымоўвае рапарты, паводля якіх, ад часу атрыманьня сувэрэннасьці, аўстрыяцкі ўрад робіць ціск на палітычныя эміграцыі з краёў за зялезнай заслонай і зь Югаславіі. У рапартах успамінаюцца навет штораз часьцейшыя факты прымусовай рэпатрыяцыі.

Некаторыя ўрадоўцы із Стэйт Дэпартмэнт лічаць, што будучы ў Маскве, аўстрыяцкі канцлер Юльюс Рааб заключыў з Крамлём сакрэтную ўмову спрыяць усімі магчымымі спосабамі рэпатыяцыі ўцекачоў.

У лягеры эмігрантаў былі дапушчаны савецкія рэпатрыяцыйныя місіі, якія рознымі шляхамі застрашвалі ўцекачоў, намаўляючы іх варочацца дамоў. Цяпер аднак гэтыя місіі не дапушчаюцца ўжо ў лягеры, кіраваныя праз ІРО і амэрыканскі ўрад. Аднак аўстрыяцкі ўрад не дазваляе прыймаць у гэтыя лягеры новых эмігрантаў, хоць часта на гэта ёсьць усе магчымасьці. Эмігрантам гэтаксама амаль немагчыма атрымаць дазвол на працу, за выняткам земляробства.

Гэткі падыход тым больш незразумелы што эмігранты не зьяўляюцца асаблівым цяжарам для аўстрыяцкай эканомікі, бяручы пад увагу малую колькасьць іх (20-25 тысяч) ды факт, што бальшыня іх утрымоўваецца праз ІРО ды амэрыканскі ўрад.

Калі верыць артыкулу, дык шмат уцекачоў знаходзяцца перад зімой у катастрафальным становішчы. Шматлікія ня маюць страхі над галавой і іх арыштоўваюць за бадзяльства ды за іншыя «праступкі».

Аўстрыяцкі ўрад ня раз пацьверджаў права ўцекачоў на палітычнае прыстанішча, але паводля атрымоўваных вестак, як кажа аўтар успамінанага артыкулу: «уцякач павінен адказаць на шмат пытаньняў ды ведаць, як на іх адказаць, каб ня быць адкінутым, як «непалітычны» ўцякач, што быццам перайшоў нелегальна мяжу, каб атрымаць лепшую працу, ці па якой іншай, чыста эканамічнай, прычыне.»

Уцекачы зь Югаславіі найбольш цярпяць ад новай тэндэнцыі аўстрыяцкага ўраду. Прыблізна сто асобаў месячна пераходзяць цяпер аўстрыяцкую мяжу. Вось-жа выяўляецца, што 60-70% гэтых уцекачоў затрымоўваюць мясцовыя паліцыйныя ўлады, ды выдаюць назад, як проста нелегальных парушальнікаў мяжы.

Аўстрыяцкі ўрад, як даведваемся, здэмэнтаваў гэтыя чуткі, яшчэ раз пацьвярджаючы права палітычных уцекачоў на палітычнае прыстанішча. Цяжка аднак паверыць, што дадзеныя апублікаваныя ў «Нью Ёрк Таймс» зусім высмактаныя з пальца — тым больш, што газэта паклікаецце на Стэйт Дэпартмэнт.

Дзівіць нас факт, што край, вялікая частка якога яшчэ так нядаўна мусіла цярпець пад камуністычнай акупацыяй, купляе цяпер сабе супакой за кошт палітычнае эміграцыі. Як-жа прыемна выдзяляецца яснае й нядвузначнае становішча Нямецкае Фэдэральнае Рэспублікі, якая на справе давяла сваю пашану да аднаго з асноўных правоў чалавечае адзінкі.

Як ладае газэта, Задзіночаныя Штаты робяць усё магчымае, каб прысьпешыць эміграцыю з Аўстрыі. У сучасны мамэнт прыблізна 200 уцекачоў эмігруе адтуль штомесячна. Акрамя гэтага, шмат хто пераходзіць у Заходнюю Нямеччыну, дзе прынамся няма небясьпекі быць сілком выдадзеным у рукі камуністых.

Мы хочам верыць, што весткі, якія даходзяць да нас, зьяўляюцца хоць часткова непраўдзівымі ці перабольшанымі; што калі і праводзіўся ціск на эмігрантаў, дык ён спыніцца, бо ніякая краіна гэткім шляхам не заваявала — і напэўна не заваюе — ласкі камуністых. Апошнія-ж напэўна выкарыстаюць эвэнтуальныя выпадкі выдачы эмігрантаў для падрыву даверу сваіх грамадзтваў што да волялюбнасьці заходніх дэмакратыяў ды аховы асноўных правоў чалавека, зь якіх права палітычнага прыстанішча зьяўляецца адным з галоўных.

**У. Немановіч**

# Дні беларускай культуры ў Польшчы

### «БЕЛАРУСЫ Ў ПОЛЬШЧЫ»

Пачынаючы зь першых дзён верасьня гг. польская рэжымовая прэса загаварыла пра Беларусаў і Беларусь. Гэта праводзілася падрыхтоўка польскіх масаў да ўрачыстага сьвяткаваньня Дзён Беларускае Культуры, якія адзначаліся ад 30 верасьня да 9 кастрычніка ўва ўсёй Польшчы.

Зьвернем тут увагу на асабліва цікавы для нас артыкул Е. Равіча, які быў зьмешчаны ў варшаўскай «Трыбуне люду» 7 і 9 верасьня, п. н. **«Беларусы ў Польшчы».**

Говорачы аб перадваенным паложаньні Беларусаў пад польскай акупацыяй, аўтар адзначае варожае настаўленьне польскіх уладаў да ўсяго беларускага, перасьледваньне беларускае мовы, масавыя арышты за беларускую дзейнасьць і г. д. Пры гэтым Равіч не забываецца «пахваліць» Беларусаў, пішучы, што бальшыня іх пад Польшчай стаяла на баку камуністычнага руху. Гэта звычайны мэтад камуністычнай прэсы пісаньня пра мінулае, над чым няма патрэбы спыняцца. Затое куды цікавейшыя весткі дае аўтар апісваючы сучасны стан Беларусаў у Польшчы. Хоць артыкул і завецца «Беларусы ў Польшчы», аднак у ім гутарка толькі аб Беларусах тых беларускіх тэрыторыяў, што ў 1945 г. былі прылучаны да Польшчы, г. зн. Беласточчыны, а тымчасам усім-жа вядома што колькасна напэўна ня менш Беларусаў знаходзіцца і на заходніх г. зв. «землях одзысканых».

На ўсходзе ў межах сучаснае Польскае дзяржавы паводля Равіча жыве каля 100 тысяч беларускага насельніцтва. Яно асабліва густое ў Бельскім, Гайнаўскім і Сакольскім паветах. У жніўні 1946 г. польскія ўлады перавялі тут усе школы на польскую мову. Пасьлей аднак наступілі зьмены ў адносінах да Беларусаў і сяньня тут наладжаная даволі густая сетка беларускіх школаў. Равіч піша: «У Беласточчыне існуюць сярэднія школы зь беларускай мовай навучаньня, адна сярэдняя школа дзе беларуская мова даецца, як прадмет, а такса 156 школаў пачатковых, дзе беларуская мова зьяўляецца або мовай навучаньня, або прадметам. Апрача гэтага ў Бельську знаходзіцца агульнаадукацыйны беларускі ліцэй (сярэдняя школа), які быў адчынены ў 1949 годзе. Падобны ліцэй знаходзіцца таксама і ў Гайнаўцы. Даплыў вучняў ў гэтыя дзьве школы — даволі значны».

Што да беларускіх падручнікаў і кніжак нагул, дык справа вельмы цікавая: вось-жа аказываецца,што ў Польшчы была выдадзена пэўная колькасьць падручнікаў, «але яны маюць шмат моўных памылак». На нашу думку, гэтыя «моўныя памылкі» - гэта вынахад бальшавікоў якія схамянуліся, што беларуская мова падручнікаў выдадзеных у Польшчы розьніцца ад афіцыяльнага беларуска-расейскага жаргону,прынятага ў БССР. У выніку гэтага, бібліятэкі беларускіх школаў запаўняюцца пераважна кніжкамі й падручнікамі выдаванымі ў Менску.

Далей Равіч сьцьвярджае, што яшчэ адчуваецца паважны недахоп кваліфікаваных настаўнікаў беларускае мовы, і дзеля гэтага з свайго боку радзіць, каб на Варшаўскім унівэрсытэце стварыць катэдру беларускае мовы й літэратуры.

З нагоды Дзён Беларускае Культуры ў Польшчы загаманіла й савецкая прэса. І вось у «Советсткой Беларусии» з 2 кастрычніка сёлета мы знаходзім гутарку карэспандэнта гэтае газэты зь міністрам асьветы Польскае Народнае Рэспублікі Яросінскім, дзе даюцца іншыя цікавыя дадзеныя аб Беларускім школьніцтве ў Польшчы. Міністар заявіў: «5530 беларускіх дзяцей, што наведзаюць пачатковыя школы, вывучаюць родную (беларускую) мову й літэратуру, як абавязкавы прадмет. У Польшчы адчынена 62 сяміклясовыя беларускія школы, у якіх вучыцца 4500 дзяцей,дзьве сярэднія школы на 600 месцаў. дзьве пэдагагічныя школы на 250 месцаў».

### АДКРЫЦЬЦЁ Й СЬВЯТКАВАНЬНІ

30 верасьня ў Варшаве адбылося адкрыцьцё Дзён Беларускае Культуры. Урачыстасьць была наладжана ў варшаўскім опэрным тэатры ў прысутнасьці поўнага складу ўраду ды прадстаўнікоў партыі. Адкрыў яе старшыня саюзу польскіх пісьменьнікаў Л. Кручкоўскі, які вітаў дэлегацыю дзеячоў беларускае культуры, пасьля чаго з дакладам аб Днёх Беларускае Культуры выступіў польскі міністар культуры й мастацтва В. Сокорскі. Тут, як і ўва ўсіх падобных савецкіх імпрэзах падалі абабітыя фразы аб «традыцыях дружбы між польскім і беларускім народамі», аб «разьвіцьці нацыянальных культураў» і г. д. Ад беларускай дэлегацыі выступіў міністар культуры БССР Г. Кісялёў, які далей скланяў на ўсе лады ўсе «дружбы» й «культуры».

Пасьля адыграньня дзяржаўных гімнаў СССР, Беларускай ССР ды Польскай Народнай Рэспублікі адбыўся вялікі канцэрт з удзелам беларускіх й польскіх артыстых.

Гэта быў толькі пачатак. Ад гэтуль хваля падобных маніфэстацыяў пакацілася па іншых гарадох. Беларускія паэты, пісьменьнікі, мастакі, тэатры пачалі свае гастролі на Польшчы.

У Варшаве выступаў Беларускі дзяржаўны Акадэмічны Тэатр імя Янкі Купалы, які паказаў спэктакль «Канстанцін Заслонаў», а пасьля «Ромэо і Джульета». У Доме польскіх пісьменьнікаў адбыўся ўрачысты вечар прысьвечаны беларускай прозе й паэзіі, у якім узялі ўдзел Броўка, Пястрак Танк, Куляшоў, Брыль, Шамякін. Пасьля ўзаемнае вымены камплімэнтаў цы прамоваў у духу «традыцыяў дружбы», Броўка падарыў польскім пісьменьнікам ад імя беларускіх партрэт Янкі Купалы, выкананы беларускімі майстрамі на дрэве. У наступных днёх гэтыя паэты гасьцілі ў Беластоку, дзе для іх ладзілася гучнае прыняцьце, на якім яны дэклямавалі свае творы, і потым наведалі Гданьск.

У Лодзі выступілі беларускія салісты, народныя артысты БССР. Р. Млодэк, К. Кудрашова, Н. Ворвулеў і іншыя. Гэтая

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Цьвярозыя словы

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

І што за прадоньне жудасьці было-б урэшце афіцыяльна раскрыта пры гэткіх дэбатах! Магчыма пасьля гэтага кіраўнікі хрысьціянскага сьвету мелі-б менш прыемнасьці ў сяброўскім братаньні з крамлёўскімі бандзюгамі, што сталася модным апошнімі часамі.

...Драматызуючы паўночна-афрыканскую справу, дэмакратычная Францыя зрабіла вялікую паслугу вольнаму Захаду, папераджаючы яго перад ашуканствам пад сьцягам «жэнэўскага духу». Толькі дзяржаўныя дзеячы ды публіцыстыя з вынятковым талентам самаашуканства могуць цяпер рабіць сабе ілюзіі, што халодная вайна ўжо скончана. На самай справе, аднак, **халодная вайна ўвайшла ў больш інтэнсыўную ды больш небясьпечную стадыю.**

# У паняволенай Беларусі

### Школы без падручнікаў

Шмат якія вучні гарадзкога пасёлку Васілевічы да гэтага часу ня могуць набыць патрэбныя падручнікі. Ніхто ня можа даць дакладнага адказу, калі яны будуць прывезены. Ня лепш і ў сельскай мясцовасьці. У магазыне Гарочыцкага сельпо, што ў вёсцы Хамічы, няма падручнікаў... з расейскай і нямецкай моваў для 5-е клясы, зь геамэтрыі для 6-е клясы. У магазыне Васілевіцкага сельпо некаторыя падручнікі наогул яшчэ ня прывезены.

Ня маюць падручнікаў і шмат якія вучні Залатускай, Бабіцкай, Караваціцкай, Гарочыцкай, Узноскай сярэдніх школ... («Зьвязда», 1. 10. 55).

### Пяршынства СССР у шашках

(Мянчанін М. Шавель чэмпіёнам)

У Менску закончыліся змаганьні на пяршынства СССР у стаклетачных шашках. Пераможцамі турніру сталіся малады майстар мянчанін М. Шавель і леташні чэмпіён краіны ў стоклетачных шашаках кіяўлянін І. Купэрман, якія набралі па 11 пунктаў. Кажны зь іх дабіўся 8 перамог, 6 партыяў зьвёў на нічыё і адну сустрэчу прайграў. Згодна з правіламі Ўсесаюзнага камітэту для фізкультуры й спорту, паміж Купэрманам і Шавелем адбудзецца матч з 6 партыяў, які й выявіць чэмпіёна краіны.

### Пяршынства БССР у настольным тэнісе (пінг-понгу)

У Горадні закончылася пяршынства БССР у настольным тэнісе. Імя чэмпіёна ўпяршыню заваяваў малады спартсмэн Менску Э. Шаміёнка, які выграў усе сустрэчы. Ягоны трэнэр, шматразовы чэмпіён рэспублікі, Г. Гольтфан заняў другое месца.

Зьмена чэміонаў адбылася і сярод жанчын. Пяршынства заваявала гамяльчанка Р. Харлап, на другое месца выйшла баранавіцкая спартсмэнка Р. Жураўкоўская.

Каманднае пяршынства заваявалі менскія майстры маленькай ракеткі, другое месца занялі тэнісісты Горадзенскай і трэйцяе — Берасьцейскае вобласьці.

### Посьпехі беларускіх спартсмэнаў

(Марыя Іткіна чэмпіёнкай сьвету)

У сталіцы Румуніі — Букарэшце, адбыліся міжнародныя спаборніцтвы ў лёгкай атлетыцы. У іх узялі ўдзел спартсмэны амаль 20 эўрапэйскіх краінаў.

У спартовых змаганьнях выдатных посьпехаў дабілася беларуская спартсмэнка майстар спорту Марыя Іткіна. Яна прабегла 400 мэтраў за 53,9 сэкунды, што зьяўляецца новым сусьветным дасягненьнем.

Высокага выніку дабіўся і іншы беларускі лёгкаатлет — заслужаны майстар спорту Анатоль Юлін. Ён заняў першае месца ў бегу на 400 мэтраў з бар'ерамі — 51 сэкунда.

### Пяршынства БССР у фэхтаваньні

Нядаўна закончылася пяршынства БССР у фэхтаваньні. Спаборніцтва праводзілася ў чатырох відах зброі - рапіры, эспадроны, шпазе ды карабіне з эластычным штыхом.

Фэхтавальшчыкі «Дынамо» выйгралі каманднае пяршынства й сёлета.

Фэхтаваньне на рапірах шосты год запра выйграла Л. Болдырова. Сярод мужчын у гэтым відзе наймацнейшым аказаўся майстар спорту Г. Бокун.

Зьмена чэмпіёнаў адбылася сярод фэхтавальшчыкаў на шпагах і карабінах. Пяршынства адпаведна заваявалі І. Васілеўскі й К. Калабашкін. У фэхтаваньні на эспадронах, як і летась, першым быў Л. Воблікаў.

### Аб савецкіх сярнікох

Пінская хвабрыка сярнічак выпускае прадукцыю нізкае якасьці. Галоўкі на сярнічках ня трымаюцца, аблушчваюцца, серка на каробках хутка сьціраецца. Сярнічкі вырабляюцца з дрэннае драўніны. Калі серка, хоць зь цяжкасьцяй, ды ўсё-ж загарыцца, дык не загараецца сама сярнічка. У выніку, больш за палавіну карабка сярнічак прыходзіцца выкідаць. («Советская Белоруссія», 4. 10. 55)

# Галоўная загана школьных чытанак

(З радыёвае хвалі «Вызваленьня»)

Беларускія школьнікі трэцяе й чацьвертае клясаў пачатковае школы атрымалі сёлета новыя кнігі для чытаньня. У чытанках гэтых пішацца шмат аб чым — аб прыродзе, аб геаграфіі, аб чалавеку, ну, і аб гісторыі. Звычайна ў гэткіх выпадках, гістарычныя апавяданьні падбіраюцца з мэтай выхаваўчай. Увагу дзяцей трэба зьвярнуць на шляхотныя й ахвярныя чыны іхных прашчураў, каб і іх самых узгадаваць у духу ахвярнасьці й любові да свайго краю й народу. Здавалася-б зусім нармальным, што беларускія чытанкі «Роднае слова» раскажуць сваім маладым чытачом таксама аб добрых і шляхотных людзёх зь беларускае гісторыі. Напішуць, прыкаладам, аб мудрым княжаньні Ўсяслава Чарадзея, аб князёўне Прадславе Полацкай, аб ваяўнічых Крывічох; раскажуць, як Францішак Скарына хадзіў пяхатою ў Прагу й Падую здабываць навуку, як друкаваў першыя беларускія кнігі, як беларускія палкі баранілі межы свайго краю ды як падымаў паўстаньне Кстусь Каліноўскі супраць прыгнятальнікаў свайго народу. Шмат чаго можна было-б расказаць беларускім дзецям у чытанках «Роднага слова», каб яны ведалі, што й у іх былі вялікія продкі, годныя прыкладу й насьлядоўваньня.

Аднак дарма будуць шукаць нашыя вучні роднае гісторыі ў сваіх чытанках. Міністэрства асьветы Беларускае ССР запраглося, бач, у воз «ленінска-сталінскае нацыянальнае палітыкі». А дзеля гэтага ў школьных падручніках можна знайсьці гістарычныя апавяданьні шмат аб чым: аб нейкім Паўзунове зь Екацерынабургу, зь якога прапаганда зрабіла першага вынаходніка паравое машыны, аб Аляксандры Неўскім, аб пачатках Масквы й Пецербурга, аб Мініне, Пажарскім і ім падобных. Нічога не знойдзем толькі зь гісторыі Беларусі. Чаму-ж гэта так? Няўжо ў мінулым нашага народу не знайшлося-б нічога годнага ўвагі? Ці мо гэта прыпадковасьць? О, не. Хрушчоўска-булганінская нацыянальная палітыка ў гэткіх выпадках прынцыповая. Прыпадковасьцяй тут хутчэй ужо можна назваць той факт, што, прыкладам, у чытанцы «Роднае слова» для чацьвертай клясы ў «зьмесьце» нумар пададзенае бачынкі амаль ува ўсіх выпадках не адказвае сапраўднаму нумару бачынкі ў кніжцы. Але тое, што заместа беларускае гісторыі ў іх гісторыя расейская — гэта не прыпадковасьць, а праграма. Гэта й ёсьць тое «нацыянальнае па форме і сацыялістычнае па зьместу», якое пануе цяпер у шмат якіх дзялянках жыцьця савецкае Беларусі. Гэта плянавае выкарчоўваньне із сьведамасьці беларускага маладога пакаленьня фактаў, якія-б маглі ім гаварыць, што й іхная бацькаўшчына мела калісьці сваіх гэрояў, сваю славу, сваіх князёў і навукоўцаў.

З пачаткам новага навучальнага году на адрас аўтараў школьных падручнікаў як і на адрас беларускага дзяржаўнага вучэбна-пэдагагічнага выдавецтва пасыпалася мноства крытычных заўвагаў. Аднак аб галоўнай загане ўсяго гэтага выдавецкага шумавіньня не заікнуўся ніводзін крытык. А асноўнай заганай гэтае школьнае «шырпатрэбаўшчыны» і ёсьць якраз крыклівая тэндэнцыя ў падбіраньні гістарычнага матар'ялу ды сыстэматычнае ўніканьне ў ім беларускае тэматыкі.

**Я. Запруднік**

**ЯКУБ КОЛАС** 2)

# У палескай глушы

Шырокі малюнак недасяжных сьветаў раскрываўся перад вачамі маладога настаўніка ўва ўсёй сваей таемнасьці і бязьмежнасьці. І чым больш мысьль захоплівалася гэтым чароўным малюнкам і гэтымі нязьлічонымі сьветамі, раськіданымі сярод бяздонных багнаў, такіх страшных, такіх павабных, — зямля і чалавек, пагардлівы гаспадар яе, рабіліся ўсё меней і меней значнымі, нікчэмнымі. Гэта бязьмежнасьць зацірала зямлю, і яна гублялася ў ёй, як малюсенечкая пылінка. А якім малазначным, няпрыметным зьяўляўся чалавек, яго клопат, яго штодзенныя драбніцы жыцьця! Новыя думкі і настроі ахінулі маладога настаўніка. Але гэтыя думкі ў момант разьляцеліся, як вераб'і, калі ў іх вясёлы гурток паляціць каменьчык, кінуты рукою якога-небудзь падшывальца-жэўжыка. Страшны і няпрыемны вобраз сьмерці бліснуў сярод гэтых думак маладога настаўніка і разагнаў іх. На адзін момант жыцьцё ў ім як-бы спынілася. Па яго целе прабегла дрыготка, бо гэты вобраз сьмерці вынік зусім неспадзявана.

— Я памру! — падумаў малады настаўнік: — Будзе такі час, калі я стану няжывым, трупам!

На кароткі міг ён як-бы адлучыўся ад сябе самога і зірнуў на сябе збоку, як староньні, другі чалавек, і жыва ўявіў сабе той момант, калі ён будзе нярухомым трупам.

— Фу! Як гэта прыкра й няпрыемна! — падумаў Лабановіч. — А горай за ўсё гэта тое, што перад сьмерцю мы бездапаможныя й слабыя і ня маем спасобу адхіліць яе ад сябе або хоць аддаліць час яе прыходу. Ад яе не адмолішся, ад яе не адкупішся нічым. Я памру. Маладым, пажылым ці старым, але факт той, што памру, бо я, як і ўсё, што мае ў сабе пачаткі жыцьця, падлягаю сьмерці, бо ўсё на сьвеце, толькі што зарадзіўшыся для жыцьця, ужо мае ў сабе адзнакі і пячаць сьмерці. І людзі звыкліся з гэтым, і нікому навет і ў галаву ня прыходзіць выказаць свой пратэст проціў сьмерці і весьці зь ёю змаганьне, як-бы ўжо даўно-даўно ўмовіліся прызнаць над сабою яе ўладу, лічыць гэту ўладу справядліваю і законнаю. А яна, гэта сьмерць, кажны дзень ходзіць вакол, кажную хвіліну нішчыць і маладзенькія і старыя формы жыцьця. І мы не зварачаем на гэта ўвагі, і толькі тады яна робіць моцнае ўражаньне, калі ўмірае хто блізкі або калі наваліцца мор і людзі пачынаюць уміраць агулам. Тады чалавека ахоплівае жах, і ён губляе галаву. І вось што цікава. Калі парушаюцца драбязговыя правы, то чалавек гатоў грызьціся за гэта й кусацца зубамі. Там-жа, дзе разьбіваецца сама аснова, прынцып, ён пакорна зьгінае сваю галаву й моўчкі падстаўляе яе пад абух.

— Цьфу! Якая гэта агіднасьць! — думаў далей малады настаўнік: — Жывеш, складаеш пляны, чагось шукаеш, чагось дабіваешся, спадзяешся, а прыдзе час — і ты будзеш труп, гніль, спажытак чарвей.

Гэтыя думкі парушылі спакой Лабановіча і пакінулі пачуваньне нейкага нездаваленьня і няпрыемнасьці. Ён зьвярцеў папяросу, стараючыся ня думаць зусім аб сьмерці, закурыў, каб перабіць прыкрыя думкі. Гэта яму крыху і ўдалося, бо Лабановіч быў хлопец крэпкі, моцна зросься зь зямлёю і жыцьцём, любіў гэтае жыцьцё, на парозе якога ён стаяў і росквіт якога для яго толькі што зачынаўся.

— Чаму я пачаў думаць пра сьмерць? Скуль узялася гэта думка? — запытаў сябе Лабановіч і пачаў дашуквацца сувязі, якая павінна быць паміж думкаю аб сьмерці і тымі думкамі, што так ці іначай былі прычынаю яе ўзьнікненьня. Прыпомніўшы ўвесь ход сваіх разваг, настаўнік ніяк ня мог знайсьці гэтай сувязі, і гэта акалічнасьць яго крыху зьдзівіла і зацікавіла.

— Я чагось ня ўзяў пад увагу, нейкі вобраз ці думка проста зьніклі з памяці і ад таго факт гэты мне здаецца крыху незразумелым і дзіўным, хоць, наогул сказаўшы, на сьвеце нічога дзіўнага няма.

А гадзіньнік на сьцяне нясупынна вёў сваю справу: разьмерна ківаўся хадун-маятнік і кажны свой крок адзначаў кароткім «так-так!», усё так-жа рыпеў перад тым, як прабіць, і ў свой час мэлядычна званіў.

Лабановіч патушыў лямпу.

Цемра і ціш напоўнілі маленькі пакойчык. З двара ў вакно пазірала чорная ноч і завешанае густымі хмарамі-валокнамі цёмнае неба. Было ціха й глуха. Праз некалькі хвілін каля дзьвярэй у кухню скрабнула мышка. Як відаць, яна знайшла дзесь скарыначку хлеба і барабаніла ёю аб падлогу.

Лабановіч стараўся заснуць, але яму штось ня спалася. Як толькі заплюшчыў вочы, перад ім, як жывы, усплыў малюнак дарогі, якою ён ехаў ад станцыі: нескончоныя балоты і цэлыя статкі стажкоў на іх, грэблі, брады, старыя хвоі, што горда ўзвышалі свае макушы над лесам, і наогул увесь гэты краявід, поўны свайго асаблівага хараства і нявыразнай цікавасьці... «Калі хворы чалавек пачынае думаць аб вялікай дарозе, то гэта ёсьць прымета таго, што гэты чалавек не ачуняе, — прыпомнілася невядома калі і дзе і кім выказаная думка.

— Усё гэта — глупства, — падумаў настаўнік і павярнуўся на другі бок.

### III

У нядзельку раненька, ледзь толькі зайграла чырвань на ўсходзе, Лабановіч сядзеў ужо на сене ў драбінах і выяжджаў зь вёскі. Невялічкая вёска ў вадну вуліцу выглядала няпрыветна й няпрытульна. На ўсім ляжала пячаць нядбаласьці, як-бы тутэйшыя гаспадары будаваліся на скорую руку і ўсё рабілі да часу і яшчэ ня ўправіліся даць той лад і парадак, якім, наогул, адзначаецца баларуская вёска. Вуліца была роўная і шырокая. Амаль што не каля кажнай хаты ляжалі кучы бярвеньняў і гнілі, але нікому ня прыходзіла ў галаву палажыць кладачку хоць супраць свае хаты, каб льга было прайсьці праз балота, у якім тапілася гэта вуліца. А гразь была густая, чорная, як дзёгаць, разьмешаная паляшуцкімі лапцямі, быдлячымі і конскімі нагамі. Але паляшукі звыкліся і зжыліся з гэтай гразьзю і не зварачалі на яе ўвагі. Хаты былі пераважна новыя, пабудаваныя з тоўстага і гладкага лесу. У разьмяшчэньні гаспадарскіх будынін на дварэ таксама ня было пэўнага парадку й сыстэмы, а ўсё было навалена, як папала.

Адным словам, жыхарства гэтай вёскі выяўляла сабою праўдзівых дзяцей лесу, якія як-бы зусім яшчэ нядаўна асталяваліся тут і толькі што пераходзілі ад аднае формы жыцьця да другой. Усе яны былі заўзятыя паляўнічыя, захопліваліся адным толькі выглядам стрэльбы і былі выдатнымі стральцамі. Сялян іншых вёсак, якія жылі больш пры палёх, яны называлі палянамі і гэтым самым як-бы адрозьнівалі іх ад сябе, жыхароў лесу. А лесу і балот тут быў непачаты край. Сама вёска стаяла на невялічкай палянцы сярод лесу й хмызьнякоў, і Лабановіч усе гэтыя дні чуў сябе як-бы чымся зьвязаным, як-бы на ім была надзета цесная адзежына, бо густыя сьцены пушчы адусюль націскалі на гэту вёску, насядалі з пагрозай, нібы яна намервалася на парушэньне яго законных правоў. Край палянкі прарэзваўся чыгункай. Дарога ішла каля самай вёскі, захопліваючы навет адзін канец вуліцы. Зараз-жа за пераездам пачынаўся лес.

Нізкае сонца ледзь прабілася скрозь макушы лесу. Неба праясьнялася, падыхаў усходні вецер; лёгкі марозік зацягаў лужынкі тонкай плёнкай лёду. Вісеўшы ўсе гэтыя дні туман разьвеяўся, усюды пасьвятлела й павесялела. Навет гэты пануры лес крыху праясьніўся і маў больш прыветны выгляд.

— Го, падмарожваць пачало! — весела прамовіў паляшук Сьцяпан Рылка і саскочыў з драбінак, выламаў лазіну і хвасянуў ёй свайго худога, але даволі шпаркага коніка.

— Эх, і лесу-ж у вас многа! — сказаў настаўнік, каб разгаварыцца з паляшуком і пазнаёміцца зь ім бліжэй.

# БССР і міжнародныя сувязі ў галіне мастацтва

Бальшавікі, утварыўшы пад ціскам беларускага нацыянальна-вызвольнага руху Беларускую Сацыялістычную Рэспубліку, мусяць час ад часу, дзеля прапаганды, паказваць навонкі, што Беларусь ёсьць быццам вольная і незалежная дзяржава. За апошнія часы міжнародныя сувязі Беларусі пашырыліся вельмі відавочна й асабліва за кошт мастацкіх узаемадачыненьняў. У БССР пабывалі госьці амаль што з усіх краінаў, гэтак званай «народнай дэмакратыі», прадстаўнікі Кітаю, Манголіі, Альбаніі, Вугоршчыны, Румыніі, Чэхаславаччыны, Польшчы. Цікава адзначыць, што як толькі ўрад СССР ізноў аднавіў сяброўства зь Югаславіяй, дык своеасаблівым адказам на гэта на менскіх кіно-экранах адразу-ж зьявіўся югаслаўскі мастацкі фільм «Бура». Гэта яскравы паказьнік таго, як добра дзейнічае з Масквы дырыгенцкі кіёчак. Па ягонаму руху Беларусь набывае сабе і сяброў і ворагаў. Яшчэ ня так даўно беларускія газэты, не адстаючы ад маскоўскіх, лаялі Ціто і ягоную хэўру, а цяпер усе кіны дэманструюць сяброўства зь імі

У сваю чаргу прадстаўнікі Беларусі гасьцілі за межамі сваёй рэспублікі. Паводля савецкай прэсы найбольш удалымі былі наведваньні Польшчы беларускімі шахматыстымі і пісьменьнікамі БССР — Броўкаю і Танкам гэтак званых краін народных дэмакратыяў, гастролі артыстых Беларускай дзяржаўнай опэры ў Ліцьве. Апошнія ў складзе сьпявачак Млодэк, Ніжнікавай, сьпевакоў Варвулёва, Дзянісава і Жыновіч, бралі ўдзел у Дзяржаўным Летувіскім опэрным тэатры ў опэрах «Царская Нявеста», «Аўген Анегін» і «Рыгалето», пакінуўшы самыя лепшыя ўражаньні, як з боку вакальнага, — прыгажосьці іхных галасоў, гэтак і з боку сцэнічнага майстэрства. З гледзішча палітычнага савецкую справу найлепш прадставілі паэты Броўка і Танк. Броўка, як старшыня савецкіх беларускіх пісьменьнікаў і адданы камуністы, а Танк, як адзін з модных беларускіх паэтаў і да таго, таксама сябра партыі, рэдактар часапісу «Полымя». Броўка і Танк рабілі даклады аб стане беларускага мастацтва й яго посьпехах, разносілі кліч аб інтэрнацыянальнай дружбе і камуністычным адзінстве, а таксама чыталі свае творы, пераважна савецка-патрыятычнага зьместу. Можна адсюль ясна бачыць, як старанна адбіраюцца і фільтруюцца ўсе тыя беларускія прадстаўнікі, што мусяць рэпрэзэнтаваць беларускую рэспубліку названую вольнай і незалежнай. Апошнімі часамі шырока рэклямавалася й апісвалася новая савецкая імпрэза — Дні Беларускае культуры ў Польшчы — аб якой маем справаздачу ў гэтым-жа нумары «Б-ны».

Аддала Беларусь сваю долю і моднаму захапленьню Саветаў эгзатычнай і казачнай краінай — Індыяй. Больш таго, — сталася так, што БССР вылучалася, як адзін з самых блізкіх сяброў маладой індыйскай дзяржавы. і ў пытаньні перацягваньня яе на бок камунізму пачала стала граць партыю першай іскрыпкі. Беларускія пісьменьнікі, паводля партыйнага загаду, пачалі актыўную працу, перакладаючы паэзію й прозу гіндускіх літаратараў. Цяперака амаль што ў кажным часапісе можна спаткаць або цэлыя разьдзелы прысьвечаныя гіндускай літаратуры, або асобныя гіндускія творы на беларускай мове. Вышэйшаю-ж ролю ўзяла на сябе Беларуская Акадэмія Навук, што стала і станоўка цяпер трымае зь гіндускімі навуковымі ўстановамі і паасобнымі вучонымі цесныя ўзаемаадносіны, абменьваючыся працамі, дасьледваньнямі, вынаходамі і гэтак далей. Цяжка было-б наракаць на гэтыя факты, іхняя вартасьць гаворыць сама за сябе, але ці можна забыцца аб усёй штучнасьці гэтае савецкае моды, што адмыслова націскае на ўтварэньне асабліва цеснае блізасьці паміж гэтак далёкімі і рознымі краінамі, як Індыя й Беларусь.

Міжнардныя сувязі БССР трэба разглядаць у двух аспэктах: З аднаго боку яны падкрэсьліваюць вылучэньне БССР як дзяржавы на міжнародным форуме. З другога-ж боку для кажнага ёсьць відавочным, што гэта вылучэньне мае толькі савецкую тэндэнцыйную, прапагандова-партыйную мэту. Карыстаючыся на паперы дзяржаўнаю незалежнасьцю, Беларусь на самай справе нічога ня можа зрабіць без загаду з Масквы.

**Травень**

# Дні беларускай культуры ў Польшчы

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

самая група дала потым вялікі канцэрт у Беластоку. У той-жа Лодзі ўправа таварыства польска-савецкае дружбы выдала зборнік твораў беларускае літаратуры, у які ўвайшлі вершы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка і інш., а таксама песьні беларускага народу.

У Пазнані й Белавежы з нагоды Дзён Беларускае Культуры было наладжана «народнае гуляньне» з удзелам артыстых і самадзейнасьці. У цэлым шэрагу іншых гарадоў адбываліся фэстывалі беларускіх фільмаў.

У кракаўскай філярмоніі выступалі з канцэртам салістыя Беларускага Дзяржаўнага Тэатру Опэры й Балету. У праграму ўваходзілі арыі з опэраў расейскіх і беларускіх кампазытараў, беларускія народныя песьні, а таксама балетныя нумары. «Асабліва сардэчна, — кажа карэспандэнт «Советской Белоруссии», — быў прыняты выступ народнай артысткі Л. Александроўскай, што выконвала беларускія народныя песьні».

Тая-ж самая газэта з 7 кастрычніка адзначае: «Пішучы аб канцэртах Л. Александроўскай, Н. Ворвулева, Р. Млодэк, К. Кудрашавай і іншых салістых беларускае опэры, газэты (польскія) аднадушна адзначаюць высокае майстэрства выкананьня, а таксама разнастайны рэпэртуар. Гледачы, — піша адна зь мясцовых газэтаў, — віталі воплескамі народную артыстку Александроўскую ня толькі як выдатную салістку, але й як прапагандыстку беларускіх народных песьняў».

Няма ніякага дзіва, што беларускія народныя песьні ды наагул беларускі фальклёр выклікалі захапленьне слухачоў. Але паставім пытаньне: Могуць мець Палякі пасьля гэтых маніфэстацыяў запраўднае ўяўленьне аб **беларускай** культуры, ейным зьмесьце? Можна што-небудзь судзіць аб **беларускай** літаратуры з прачытаных вершаў беларускімі савецкімі паэтамі? Не, гэта выпаласканы із зьместу соцрэалізм, што дарэмна яшчэ прэтэндуе на беларускую форму.

Зрэшты, напэўна тут ня ставілася за мэту паказаньне беларускае культуры. Яна зьявілася хутчэй нявінным сродкам для прапагандова-палітычных мэтаў — маніфэставаньня савецка-польскае «дружбы» «у барацьбе за пабудову камуністычнага грамадзтва», як гэта, зрэшты, выказвалі і самі камуністычныя верхаводы, пры ўсіх выступах з нагоды Дзён Беларускае Культуры ў Польшчы.

**А. Г.**

## Куток мовы

# Адказ сп. Мікалаені

Мой першы адказ сп. Мікалаені (гл. «Некалькі слоў выясьненьняў» у Но. 36/266 «Б») быў спозьнены незалежна ад мяне, а спазьненьне гэтага другога адказу сталася з мае прычыны, за што прашу выбачыць. Я быў надта заняты іншай, безадвалочнай работаю. Цяпер адказую на зацемку Мікалаеневу «Як-жа ў запраўднасьці» («Б», Но. 35/265).

З прычыны зьмены «ф» у «хв» у **Тахвіля** (з Тэофіля) сп. М. пытаецца: «Якое агульнае правіла, калі літара «ф» зьмяняецца ў «хв», а калі не? Інакш гаворачы - філялёгія ці хвілялёгія, філязофія ці хвілязофія? і г. д.» Вось-жа гэтае агульнае правіла паданае ў «Ведзе» 1952 г., бач. 184. Там кажацца: «Гук «ф» не беларускі. У словах сваіх беларускае мовы гэтага гуку няма, а ў словах, пазычаных із чужых моваў, **калі яны сталіся народнымі,** «ф» замяняецца або гукам **п** (Піліп, Панас, Сапрон), або гукамі **хв** (хварба, хвабрыка), або гукам «х» (хорма, хунт)... Як рыса, ды характарыстычная, беларускае мовы, менаваная асаблівасьць павінна ўжывацца як у гаворцы, так і на пісьме. А «ф» трэба ўжываць адно ў тых пазычаных словах, што ня сталіся народнымі ў беларускай мове, у таковых, як географія, фізыка, філёзофія а пад. Здаецца, ясна. Тымчасам М., каторы знайшоў у №21—23 «Веды» абмылку друку (гэмоглёбіна зам. гаммаглёбуліна) гэтага выясьненьня «не зацеміў». Запраўды нейкая дагэтуль няведамая ў псыхолёгіі фэномэнальная здольнасьць — бачыць камара і не зацеміць вала.*)

За адным гакам адкажу тут крышачку і др. Ст. Станкевічу, каторы ў вартыкуле «Мае заўвагі да «Кутка мовы», між іншага, кажа: «Праўда, слова «форма» ўжо даўно ўжываецца ў нашай мове і на замену ў ім «ф» на «х» можна было-б згадзіцца, але тады й выводныя словы ад «форма», якія яшчэ вычуваюцца ў нашай мове, як чужыя, мы мусілі-б пісаць таксама праз «х». Тады мусіла-б быць «хармальны», «ахорміць», схармаваны», «рэхарматар», «рэхорма» і г. д.» Не канечне. Слова «хорма» знародненае, дзеля таго яго ўжываем із «х», іншыя незнародненыя і ў іх застаецца «ф». Адылі, калі прымаецца ў нас прынцып, што ў знародненых чужых словах маем замест «ф» ужываць «х» - а гэтак мусіць стацца, калі хочам мець сваю мову - то з часам некаторыя зь менаваных і падобных словаў таксама будзем ужываць із «х». Першым «кандыдатам» на гэта, відавочна, будзе «рэформа». Уперад пісалі ў нас **літара, сакрэт**, але **літэратура сэкрэтар,** а цяпер пішам **літаратура, сакратар,** і ўсе адчуваем, што гэтак рабіць добра, нашто рабіць розьніцу ў тым самым караню двух або колькіх словаў?

Чаму **хорма,** а ня **хворма?** Спачатна было ў усіх падобных словах «хв». Пра «хворма» сьветча лятувіскае «квармас»,

*) Каб ня быць вінавачаным за карэктарскія грахі (гэную абмылку друку М. уважае за абмылку аўтара), я мушу паправіць колькі абмылаў друку ў сваіх артыкулах у «Кутку мовы». Мае быць: у № 32/262 «Б» на бач. 3 **вяснушчым** (а не «вяснучым»), **1952** (а не «1925» — у вынасцы); на 4-ай бач. мае быць: Польскаму «значны», рас. «значительный» адказуе блр. **ладны,** а блр. **значны** = рас. «заметный»; **памятуй** (а ня «паматуй»). У № 33/263 перад апошні абзац мае быць: Гэтак буду скарачаць назоў мае кніжкі «Некаторыя праўніцкія тэрміны беларускія. У № 35/265 мае быць: Паблр. ёсьць **здароваць, здароваю.** Прыклад: **Здаровасць** намесьнік полацкі пасаднікаў рыскіх. У № 36 мае быць: **благоцьця** (а не «благосьці»), **гаршчок** (а не «гаршок»), а на пачатку перадапошняга абзацу мае быць: Зацемлю, што блр. словы **сыты** адказуе рас. «жирный», пол. «тлусты».

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

# Коласаў — савецкі агент

**(Камунікат Амэрыканскага Камітэту для Вызваленьня ад Бальшавізму)**

Міхаіл Коласаў, калішні падпалкоўнік савецкае арміі, які быў перайшоў на Захад пасьля вайны і стараўся заняць вядучыя пазыцыі сярод эмігрантаў у Нямеччыне, вярнуўся ў Усходнюю Нямеччыну ды ўвайшоў у службу Камітэту для павароту на бацькаўшчыну, зарганізаванага праз КГБ.

Гэтая вестка была пацьверджаная мюнхэнскім аддзелам Амэрыканскага Камітэту, які паведаміў, што двух сяброў Інстытуту для Вывучэньня СССР атрымалі лісты ад Коласава, высланыя з усходняга Бэрліну. Верагодныя весткі сьцьвярджаюць, што Коласаў, які быў сябрам камуністычнае партыі ад 1931 да 1945 году, вярнуўся на Ўсход прыблізна ў сярэдзіне верасьня.

Коласаў выдаваў сябе за наважанага антыкамуністага і пробаваў заняць вядучыя пазыцыі ў ЦОПЭ (расейская арганізацыя — Центральное Об'единение Послевоенной Эмиграции) ў часе канфэрэнцыі, якая адбывалася ў Мюнхэне ў 1952 годзе для заснаваньня гэтае арганізацыі. Аднак ягоная тактыка паказалася шмат каму накіраванай хутчэй на разьбіваньне, чым на задзіночаньне і яму не ўдалося сабраць большае колькасьці прыхільнікаў. Ён прылучыўся да маёра Дзянісава ў Гамбургу, ствараючы паралельную групу эмігрантаў у апазыцыі да ЦОПЭ, але толькі кучка ўцекачоў увайшла ў гэтую групу. Маёр Дзянісаў быў нядаўна арыштаваны ў ангельскай зоне, западозраны ў шпіянажы на карысьць саветаў.

У 1949 годзе Коласаў эміграваў у Аўстралію, але аўстралійскія ўлады вярнулі яго ў Нямеччыну ў 1950 годзе. Як прычыну выдаленьня яны падалі факт, што ён даў хвальшывыя інфармацыі адносна свае прыналежнасьці да камуністычнае партыі. У час, калі радыё «Вызваленьне» набірала працаўнікоў у супрацоўніцтве з эміграцыйнымі арганізацыямі, Коласаў быў паданы й прыняты ў ваддзел навінаў. Праверка, якую праводзіць звычайна Амэрыканскі Камітэт, выявіла, што ёсьць прычыны лічыць Коласава ня добранадзейным, і ягоная праца ў радыё была спынена ў сакавіку 1953 году, два месяцы пасьля прыняцьця яго на працу.

Коласаў, які таксама карыстаўся прозьвішчам Рыгора Ляха напісаў пасьля гэтага сьцяг артыкулаў для расейскае прэсы, а выдавецтва імя Чэхава прыняло для выданьня ягоную кніжку «Прыжок из ада».

Інстытут для Вывучэньня СССР ў Мюнхэне выдаў ратратарам дзьве працы Коласава ў 1953 і 1954 годзе. Гэты-ж Інстытут прызнаў яму малую стыпэндыю для працы на акрэсьленую тэму. Камітэт сьцьвярджае, што Коласаў ніколі ня быў сябрам Інстытуту і што стыпэндыя, прызнаная яму была паводля вартасьці працы, якую ён прапанаваў.

Мюнхэнскі аддзел Камітэту паведаміў свайму бюро ў Нью Ёрк: ёсьць падставы думаць, што КГБ-ўскі «камітэт» выкарыстае да максымуму здраду Коласава вызвольнай барацьбе. Камітэт папераджае эміграцыю, што Коласаў напэўна будзе шантажаваць некаторых эмігрантаў ды намагацца зьнеслаўляць эміграцыйных лідэраў ці арганізацыі, каб аслабіць іхныя ўплывы й эфэктоўнасьць антыбальшавіцкага змаганьня.

— О, лесу ў нас многа! — пацьвердзіў паляшук і павярнуў твар да настаўніка. — Гэта вось цяпер, як правялі тут чыгунку, яго пачалі водзіць, а даўней лес зусім не такі быў. І зьвяр'я было многа. Каля нашай вёскі мядзьведзі вадзіліся. Яшчэ бацька нашага старасты, ведаеш можа? — стары Грыгор, даўнейшага закалу чалавек! — жывога медзьвядзёнка зь лесу прынёс, ад мядзьведзіцы адабраў!

— Як-жа гэта ён?

— А Бог яго ведае. Сьмелы. Дый здаровы, як дуб. Дарма што яму цяпер семдзесят год, а як забушуе часам у хаце Раман, яго сын, стараста наш, то стары, бывае, ня вытрымае, возьме яго на рукі, як хлапчанё, і зараз-жа ўціхамірыць, хоць Раман і ня ўломак. Вось як! І завезьлі таго медзьвядзёнка графу Патоцкаму. Дазвол далі Грыгору паляваць у графскіх лясох, яшчэ і пораху й шроту выдалі.

— А цяпер мядзьведзяў тут няма?

— Не, няма: перавяліся. Туды далей, пад Татарку, сышлі, дзе месца глушэй і лесу болей, і дзе меней заглядае вока людзкое... Забараняць пачалі па лесе із стрэльбаю хадзіць, лясьнікоў паставілі, законы срогія пашлі. Але і лес нішчыцца, і зьвер зводзіцца.

— А я чуў, што тут яшчэ многа зьвярыны?

— Ёсьць, праўда, але хіба столькі, як даўней? Бабры тут калісь вадзіліся. Яшчэ і цяпер дзе-нідзе можна бачыць сьляды іх будынін... На ўсё пайшоў звод, — зь нейкай маркотай заключыў паляшук і змоўк, аб чымсі задумаўшыся.

— Так, дзядзька Сьцяпан: жыцьцё не стаіць на месцы, і ўсё на сьвеце зьмяняецца. Вось у вас чыгунку правялі, заработкаў прыбавілася, гандаль шпарчэй пайшоў, новыя людзі зьявіліся. Яшчэ тры гады таму назад у вас і школкі ня было, цяпер пабудавалі школу, нашы дзеці вучыцца будуць, граматнымі стануць, будуць кнігі, часапісы чытаць, навучацца, як лепей каля зямлі хадзіць, каб карысьці зь яе болей было, бо ўсё-ж паляпшэньне ў жыцьці ад навукі ідзе. Пэўна, і вы, дзядзька Сьцяпан, маеце дзетак, якіх трэба ў школцы вучыць?

— Ёсьць Іван і Пятрук, самыя шкаляры, — уздыхнуў паляшук.

У яго адказе настаўнік пачуў нотку нездаваленьня, што яго хлопцам прыходзіцца ў школу йсьці.

Настаўнік зь цікавасьцю назіраў за паляшуком. Яму падабалася паляшуцкая вопратка дзядзькі: чорная выцьвіўшая суконная сьвітка, пашытая да стану, шырокі ў чырвоныя палоскі даматканы пояс і шапка-кучомка свайго вырабу. Доўгія, як у папа, цёмнарусыя валасы, сьветла-шэрыя вочы, сярэдні рост, шырокія плечы, павольнасьць руху й нейкая сур'ёзнасьць выразу твару як ня трэба лепей стасаваліся з агульным малюнкам палескай прыроды.

Дарога ўвесь час ішла лесам. Лес зрэдку разрываўся невялічкімі палянкамі, на некаторых рунела жыта, а па краях там-сям пападаліся старадрэвіны-хвоі, што пышна разрасьліся на прасторы, або разьвіслыя таўшчэразныя дубы, як заможныя старасьвецкія гаспадары; на гэтых дубох паляшукі-бортнікі рабілі цэлыя пчольнікі, зацягваючы туды па дзесятку вульлёў. Палянкі зноў зьмяняліся лесам, то стройным баравым, то нізкім балотным. Высокія тонкія бярозы мяшаліся з шэрымі стваламі хвоі і прыдавалі характар маркоты і засмучэньня ўсяму малюнку. Лес зноў расступаўся, даючы месца бясконца вялікім балотам. Балоты цягнуліся далёка-далёка між лесу й замыкаліся лесам, ледзь чарнеючы роўнай палоскай на далёкім небасьхіле. Цэлае мора высокай парыжэлай травы засталося зімаваць тут, бо сюды ня зойдзе ні гавяда, ні чалавек з касой. Нязьлічоныя купіны, нізкарослыя хвойкі на іх, пачарнелыя карчагі даўно адмёршых дзеравяк расьлі і гнілі тут спрадвеку. Сярод гэтых купін бліскучымі стужкамі павіваліся часамі палоскі вады, чыстыя, гладкія, як шліфаванае шкло. Невядома, зь якіх часоў сталі над імі засохшымі адломкі старых спарахнелых алешын, як сьвечкі, і маркотна глядзелі ў неба. Ад балот патыхала нейкім нявыразным смуткам, ціхім жалем веяла ад аднатонных малюнкаў палескіх куткоў, дзе ўсё-ж-такі жыцьцё стварала сваясаблівыя формы і, ня гледзячы на ўбоства, мела сваю павабнасьць і хараство, свой твар, поўны тужлівага задуменьня. Але гэтыя малюнкі тамілі вочы й засмучалі сэрца, і чалавек мімаволі стараўся знайсьці нешта такое, на чым можна было-б адпачыць і заспакоіцца.

Пазіраючы на гэтыя балоты-пустэлі, Лабановіч часамі пачуваў у сэрцы нейкую адарванасьць ад жыцьця й сьвету, якбы гэты сьвет сышоўся тут клінам, і туга па тым, з чым ён разлучыўся, пачынала забіраць яго душу.

«Што пачувае, аб чым думае гэты дзядзька Сьцяпан? Як адбіваюцца на ім вобразы глухога Палесься і які сьлед пакідаюць яны ў ім?» — думаў настаўнік, і яму хацелася хоць на момант стаць тым самым паляшуком, што сядзеў поруч зь ім, каб зірнуць яго вачамі і зразумець увесь нутраны сьвет яго, яго надзеі, яго жаданьні.

Балоты скончыліся; дарога пашыбавала на горку, калёсы мякка пакаціліся па жоўценькім пясочку, і лес прыняў звычайны свой выгляд. Вярсты праз дзьве лес з аднаго боку дарогі зноў разарваўся вясёлаю палянкаю, агінаючы яе прыгожымі завароткамі. На гэтай палянцы, за поўвярсты ад дарогі, раськінулася чыясь пасада, як сярэдняй рукі фальварак, з усімі прыбудоўкамі, садам і прасторным дваром.

— Чыя гэта пасада? Хто жыве тут? — запытаў настаўнік.

— Гэта? А тут пан каморнік жыве. Завітанкамі пасада называецца. Адгэтуль якраз палавіна дарогі да воласьці, — адказаў Рылка.

«А, гэта і ёсьць той каморнік, у чыю дачку ўсе тутэйшыя кавалеры закахаліся. Дык вось дзе жыве яна, гэта красуня!»

Лабановіч прыпомніў размову із сваёй старожкай і, зацікаўлены, глянуў яшчэ раз на пасаду. Паслушнае і ўслужлівае ўяўленьне ўжо рысавала яму вобраз дзяўчыны, гэту чыстую й прыгожую краску, узгадаваную ў глухіх палескіх барох. Лабановіч ніколі, навет у думках не дазваляў сабе зьняважыць дзяўчыну. Адно слова «дзяўчына» выклікала ў душы яго чысты й прыгожы вобраз, на які можна пазіраць і любавацца толькі здалёк. І цяпер ён прыпомніў два ці тры здарэньні ў сваім жыцьці, калі гэтыя вобразы глыбока западалі ў яго сэрца, але ён і намёкамі не сказаў нікому пра гэта. А раз у дачку каморніка ўсе закаханы, то яна, бяз спрэчкі, ёсьць верх хараства. Яшчэ ня бачачы яе, настаўнік пачуваў, што яна ўжо мае над ім нейкую ўладу. Яму хацелася хоць паглядзець на яе, і праз усю астатнюю дарогу ён думаў аб дачцы каморніка, ён ужо сустракаўся зь ёю, цікавіў яе і бадай што ня ўсіх кавалераў яе засланіў сабою.

## IV

Апошні раз расступіўся лес, і перад вачамі настаўніка раскрылася шырокая круглая палянка, вясёлая і прыветная. Лабановіч уздыхнуў лягчэй, як-бы зь яго плячэй зваліўся нейкі цяжар, бо дарога, траская і каранiстая, і лес усё-ж-такі дакучылі яму. Тым прыямней зірнулі стрэхі людзкіх будынін і коміны хат, зь якіх яшчэ дзе-ні-дзе курыўся сіняваты дымок.

Вёска была досыць вялікая, цягнулася ў вадну лінію, і толькі каля цэркаўкі на ўзгорку хаты гуртаваліся гусьцей і шырэй. Зьлева, пры канцы вёскі, стаяў дом валаснога праўленьня з двума высокімі чырвонымі комінамі над пачарнелым дахам. Насупраць, на другі бок вуліцы, выглядала школа зь белымі аканіцамі і двума ці трыма разьвіслымі вязамі каля яе. Пры дарозе ў вёску, крыху на водшыбе, маркотна тулілася старэнькая драўляная цэркаўка. Цяпер яна стаяла адзінокая, закінутая, забытая, і толькі богабаязны падарожны, праходзячы каля яе, прыпыняўся й хрысьціўся, набожна сьхіліўшы галаву. Па адзін і па другі бок вёскі стаялі ветракі, як страшыдлы, шырока раськінуўшы свае крыльлі. Адны зь іх былі ў жывым руху, весела падымалі й апускалі крыльлі, а другія — стаялі моўчкі, нярухліва і мелі такі выгляд, як-бы яны былі крэпка чымся зьдзіўлены і пыталіся: «А чаму-ж мы стаім без работы?»

**(Далей будзе)**

# Фізкультура й спорт у БССР

(Працяг. Пачатк. гл. у №№ 30-31 і 33)

**Аб масавасьці савецкага спорту**

Адзначаючы дадатныя бакі савецкае фізкультуры, бальшавікі абавязкава мусяць успомніць і аб ейнай масавасьці. Ну, дапусьцім, што гэта так. Аднак тут-жа трэба адразу адцеміць, што масавасьць гэтая, як і шмат якія іншыя савецкія зьявішчы, мае свой вельмі спэцыфічны характар. Спэцыфіка савецкае фізкультуры ўвыпукляецца асабліва выразна, калі мы параўнаем яе зь фізкультурай іншых краін.

Агледзеўшыся навокал сябе, скажам, у Нямеччыне, Ангельшчыне, Францыі, Задзіночаных Штатах ці якой-небудзь іншай краіне Захаду, мы заўважаем таксама масавасьць фізкультуры. У Ангельшчыне, напрыклад, ды асабліва ўлетку, падчас «вік-энду» пры найменшым пасёлку сустрэнеш футбольнае поле, дзе, не гаворачы ўжо аб моладзі, можна заўсёды бачыць і сівых і лысых, што праводзяць у спартовых гульнях свой вольны час. Каму не вядомы запал, зь якім тыя-ж Ангельцы аддаюцца свайму славутаму крыкету, Амэрыканцы - бэйзболу, Бэльгійцы - страляньню з лука, Французы - цыклістыцы й г. д., і г. д., кажны паводля свайго нацыянальнага й асабістага густу. На працягу цэлага году ў заходніх краінах адбываецца нязьлічоная колькасьць спартовых сустрэч, змаганьняў і іншых імпрэзаў, у якіх удзельнічаюць дзесяткі тысяч грамадзян дадзенае краіны. Пры гэтым ніхто нікога ня прымушае займацца спортам, і ўрадавая прэса ня крычыць на ўвесь сьвет аб прывязанасьці людзей да фізкультуры, як аб нейкім надзвычайным дасягненьні, бо ўсё гэта сталася ўжо зьявішчам, што арганічна належыць да здаровага й нармальнага народнага жыцьця.

Масавасьць савецкая не такая. Гэта штосьці, як той казаў, непаўторнае. Рэгулярныя й масавыя бываюць, прыкладам, кросы ў Саветах. Плян прадугледжвае, скажам, паход на 10 кілямэтраў - трэба выканаць. Выкананьне пачынаецца ад адкладаньня. А пасьля, у самы апошні тэрмін, адказныя за правядзеньне дадзенае спартовае імпрэзы арганізоўваюць масу, пускаюць у ход так-жа добра ведамую і зь іншых дзялянак жыцьця «штурмоўшчыну»: на крос выганяецца ўсё — і старое, і малое; масава бягуць, ідуць ці едуць, а пасьля масава забываюцца на ўсё гэта аж да наступнае «штурмоўшчыны» і далей прадаўжаюць займацца хто пікарам, хто гарадкамі, а хто проста хаджэньнем пешшу. Масавасьць бо спорту, да гэтага — арганізаваная масавасьць, вымагае ад савецкіх верхаводаў цэлага шэрагу няпрыемных рэчаў: прыкладам, трэба наладзіць адпаведную вытворчасьць спартовага інвэнтару й вопраткі, трэба зарганізаваць гандаль гэтымі рэчамі — трэба забясьпечыць магазыны й мячыкамі, і ракеткамі, і сеткамі, і шнурамі, і канькамі, і яшчэ Бог ведае чым. Ды дзе-ж гэта ўсё ўзяць, калі, згодна то аднога то другога курсу, лёгкае індустрыі бальшавікі ня любяць, бытавая вытворчасьць не ў пашане, і па дарозе да камунізму цяжка бывае часамі навет на жылетку да галеньня напароцца. Адсюль і масавасьць фізкультуры зьяжджае на «каждый по своим способностям».

Савецкім бюракратам залежыць больш на спэкуляцыі спартовымі порткамі, чымся на масавасьці спорту. Ім патрэбны ня масы, а чэмпіёны. Чэмпіёны, бач, больш даходная рэч: і трэнеру, і старшыні камітэту для фізкультуры й спорту, і кажнаму іншаму, хто добры скачок ці хуткі бег можа запісаць на свой начальніцкі прыход. Таму аб чэмпіёнах выключна й дбаюць кіраўнікі савецкага спорту на Беларусі. Таму ўсе дасягненьні беларускага савецкага спорту й абмежваюцца дзесяткам прозьвішчаў. Таму, урэшце, благія й вынікі ў беларускім спорце, што няма магчымасьці **адбору**, бо няма, на добры лад, ніякае масавасьці.

Ніжэй падаём вытрымку з артыкулу Б. Пестрыкава, начальніка навучальна-спартыўнага аддзелу Камітэту для фізкультуры й спорту пры Савеце Міністраў БССР, (гл. «Зьвязда» з 5.10.55), у якім пасьля пералічэньня кучкі асоб, што дабіліся ў спорце добрых вынікаў, падаецца сумны малюнак, як вынік так званае «масавасьці» фізкультуры й спорту ў савецкай Беларусі:

«Кажную рэспубліку прадставіць на спартакіядзе народаў СССР калектыў з 80 спартсмэнаў.

Як-жа рыхтуюцца да гэтай найвялікшай падзеі ў жыцьці савецкіх спартсмэнаў беларускія лёгкаатлеты?

Бязумоўна, асобныя зь іх ужо дабіліся высокіх вынікаў. Наймацнейшы ў сьвеце кідальнік молата мянчанін Міхаіл Крываносаў увесну гэтага году кінуў молат на 63 м 75 цм. Праз месяц на спартовых гульнях V-га сусьветнага фэстывалю моладзі ў Варшаве ён палепшыў рэкорд сьвету ў кіданьні молата, давёўшы яго да 64 м 33 цм. А нядаўна ў Югаславіі зноў абнавіў рэкорд, давёўшы яго да 64 м 52 цм.

Чэмпіёнка Эўропы й Савецкага Саюзу Марыя Іткіна ў сёлетнім спартыўным сэзоне двойчы паляпшала сусьветны рэкорд у бегу на 400 м. Цяпер рэкорд сусьветны роўны 53,9 сэкунды.

На веснавых усесаюзных спаборніцтвах зь лёгкай атлетыкі ў Нальчыку добра выступіў віцьблянін Хведар Лістапад. Набраная ім сума (3.427 пунктаў) зьяўляецца ўсесаюзным рэкордам у клясычным пяціборстве.

Малады лёгкаатлет Яўген Сакалоў з Бабруйску на спаборніцтвах у Рызе прыймаў удзел у ўстанаўленьні сусьветнага рэкорду ў эстафэтным бегу 4 × 800 мэтраў. Ён-жа двойчы сёлета палепшыў рэкорд БССР у бегу на 1500 м. Апошні паказаны ім вынік на гэтую дыстанцыю — 3'52,4" зьяўляецца адным зь лепшых у Савецкім Саюзе. Трэба таксама адзначыць вынік бегу на 800 м. віцебскага спартсмэна С. Плаўскага — адна мінута 50,8 сэкунды.

Школьнік места Менску Уладзімер Гараеў на рэспубліканскай спартакіядзе школьнікаў паставіў новы юнацкі рэкорд у трайным скачку. Ягоны вынік — 14 м. 40 цм...

Аднак...

Асабліва нізкія вынікі назіраюцца ў такіх відах спорту, як бег на кароткія дыстанцыі, кіданьне дзіды, штурханьні ядра, скачкі ў даўжыню й вышыню ў мужчын, у бар'ерным бегу, скачкох у даўжыню ды асабліва кіданьні дзіды ў жанчын. Дастаткова сказаць, што навет у табліцы рэспубліканскіх рэкордаў графа, што азначае рэкордны вынік мужчын у штурханьні ядра, пустая. Ніводнаму зь беларускіх кідальнікаў не ўдалося паказаць вынікаў, якія адпавядаюць вымогам першага разраду.

Гаворачы аб рэкордах, трэба сказаць, што беларускія спартсмэны сёлета 22 разы ўносілі папраўкі ў табліцу рэспубліканскіх рэкордаў у лёгкай атлетыцы. Некаторыя зь іх перавышаюць або блізкія да рэкордаў Савецкага Саюзу. Гэта рэкорды М. Крываносава ў кіданьні молата, А. Юліна ў бегу на 400 м. з бар'ерамі, Ц. Лунёва ў бегу на 110 м. з бар'ерамі, М. Салтыкова ў бегу на 3.000 м. зь перашкодамі, М. Іткінай у бегу на 100, 200 і 400 мэтраў.

Аднак і цяпер шмат якія з рэспубліканскіх рэкордаў яшчэ вельмі адстаюць ад рэкордаў Савецкага Саюзу. Гэтак, у скачкох у вышыню ў мужчын рэкорд даведзены сёлета да 187 цм, але гэта на 15 цм горш за рэкорд СССР. У жанчын у гэтым відзе разрыў складае 13 цм. У скачкох у даўжыню наймацнейшы зь беларускіх скакуноў паказаў вынік 7 м 1 цм — на 61 цм ніжэй за рэкорд Савецкага Саюзу. Яшчэ большую трывогу выклікаюць рэкордныя вынікі жанчын-кідальніц. Найлепшы вынік беларускай дыскаболкі на 12 м 9 цм горшы за рэкорд Савецкага Саюзу. У кідальніц дзіды гэты разрыў роўны 4 м. 58 цм. Да гэтага трэба дадаць, што рэкордны вынік, паказаны В. Набокавай яшчэ ў 1951 г., пакуль што ніводнай зь кідальніц дзіды рэспублікі не ўдалося паўтарыць.

Сёлета ў Беларусі было праведзена цэлы шэраг спартовых спаборніцтваў...

Недапушчальна нізкімі былі вынікі ў лёгкаатлетаў шэрагу вышэйшых навучальных установаў, якія прымалі ўдзел у Ўсебеларускай спартакіядзе студэнтаў. Ніводзін лёгкаатлет Беларускага лесатэхнічнага інстытуту не паказаў выніку вышэй за трэйці разрад. Такія-ж вынікі былі ў лёгкаатлетаў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, Віцебскага вэтэрынарнага інстытуту ды Магілёўскага пэдагагічнага інстытуту. А спартсмэны Мазырскага пэдагагічнага інстытуту зусім не далі разрадных вынікаў.

Дрэнна пастаўлена праца ў лёгкай атлетыцы сярод школьнікаў. На рэспубліканскіх спаборніцтвах сёлетняга году ня было паказана ніводнага выніку першага разраду і толькі 13 — другога. Нездавальняючымі зьяўляюцца й вынікі першынства Беларускай ССР у лёгкай атлетыцы. Толькі тром удзельнікам удалося паказаць запраўды высокія вынікі. Марыя Іткіна пабіла рэкорд сьвету ў бегу на 400 м, рэкорд рэспублікі абнавілі ў бегу на 800 м С. Плаўскі і ў скачкох з жэрдкай Е. Трафімовіч...

Усё гэта гаворыць аб тым, што лёгкая атлетыка на Беларусі разьвіваецца слаба. Гэткае становішча тлумачыцца ў першую чаргу тым, што вядучым відам спорту займаюцца толькі ў васобных калектывах фізкультуры. Асабліва адстае разьвіцьцё лёгкай атлетыкі ў фізкультурнікаў Гарадзенскай, Берасьцейскай, Менскай ды Маладэчанскай вобласьцяў, у спартовых таварыствах «Чырвоны сьцяг», «Тарпэда», «Харчавік» і «Калгасьнік». Рэспубліканскі камітэт для фізкультуры й спорту мірыцца з такой практыкай».

**А. Б.**

# Гады мінаюць...

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

у Беларусі быў сяньня дэмакратычны лад, дык усёадно беларускі эмігрант, пабыўшы за межамі краіны 15—20 гадоў бяз духовае сувязі зь ёю, вярнуўся-б туды напоўчужынцам. Тыя зьмены й трансфармацыі, што ў мінулым патрабавалі стагодзьдзяў, каб увайсьці ў жыцьцё, сяньня адбываюцца на працягу гадоў ці дзесяцігодзьдзяў.

«Зыходзіш, вёска, зь яснай явы», — стылем «Ночнага царства» пісаў Купала, аб беларускай вёсцы, адвечная структура й традыцыя якое руйнаваліся сацыялістычным наступам. Аднак можна з упэўненасьцяй сказаць, што калі-б на Беларусі быў які-небудзь іншы лад, не камуністычны, дык усёадно тая адвечная беларуская вёска паступова мусіла-б зыйсьці «зь яснай явы». Іншая рэч, у якім кірунку адбывалася-б трансфармацыя — гэтае зыходжаньне «зь яснай явы». З упэўненасьцяй можна сказаць, што ня ў кірунку калгасаў, але гэта ўжо не ўваходзіць ў засяг нашае тэмы.

Такім чынам, эвалюцыя народу з усімі пасьлядоўнасьцямі, што зь яе выцякаюць — зьявішча агульнае, сталае, няспыннае. І хопіць, каб гэтых пасьлядоўнасьцяў ня браць на ўвагу, як мы трацім лучнасьць з рэальнасьцяй, становімся музэйнымі экспанатамі. Ды вось, на вялікі жаль, ладная частка нашых эмігрантаў у адносінах бацькаўшчыны трацяць гэтую лучнасьць, а гады бязьлітасна аддаляюць іх ад яе. Ясна, гэта ня тычыцца тых, што наважыліся настала ўладзіць сваё жыцьцё на чужыне. Затое для тых, хто думае ў будучыні вярнуцца — гэтая страта лучнасьці можа стацца тады крыніцай моцных расчараваньняў.

Як-жа разумець гэтую духовую лучнасьць з бацькаўшчынай? На нашую думку — гэта ўвесь час імкнуцца быць у курсе падзеяў і працэсаў ува ўсіх галінах жыцьця нашага народу. Мала ведаць, што калгасьніка ці работніка эксплятуюць, што пануе галеча, тэрор і г. д., бо гэта ёсьць сталыя атрыбуты савецкае ўлады. Але-ж побач з гэтым адбываюцца зьмены, якім мы нярэдка ня прыдаем належнага значэньня, а яны якраз кладуць адбітак на тую ці іншую галіну жыцьця нацыі. Возьмем для прыкладу сёлетнюю зьмену праграмаў школьнага навучаньня. На сяньня, гэта яшчэ нічога, але за колькі гадоў на выпускнікох школаў будзе адчувацца значэньне гэтае зьмены. У навуцы, у эканоміцы, літаратуры, мастацтве — усюды адбываюцца працэсы, якія адбіваюцца на штодзённым жыцьці нашага народу і, бязумоўна, не зьяўляюцца без значэньня для будучыні.

Можна апраўдвацца, што не заўсёды знаходзяцца магчымасьці сачыць за гэтымі падзеямі на Беларусі. Гэта праўда. І дзеля таго, «Б-на» мусіла-б дапамагаць у гэтым выпадку. Але йзноў-жа тут мала толькі падаваць самыя факты з жыцьця нашага народу, што зрэшты «Б-на» й робіць ад даўжэйшага часу. Тут патрэбныя былі-б глыбейшыя аналізы тых ці іншых зьявішчаў і падзеяў, што маглі-б зрабіць хутчэй тыя, якія ў савецкіх пытаньнях зьяўляюцца, калі не экспэртамі, дык прынамся глыбока заавансаванымі.

На заканчэньне нельга не зацеміць, што духовая лучнасьць з краем патрэбная ня толькі па тое, каб у будучыні не вярнуцца чужынцам дадому. Яна патрэбная палітычнай эміграцыі і для канкрэтных сучасных мэтаў. Наш нацыянальны рух траціць свой грунт пад нагамі, калі ён толькі абмяжоўваецца да эмігранцкае рэчаістасьці. У вадарванасьці ад народу — мы толькі эмігранты, безьдзяржаўныя чужынцы ў створаным самымі нейкім нерэальным сьвеце «змаганьня»; у духовай лучнасьці зь ім — мы вольныя прадстаўнікі народу й барацьбіты за ягоную долю.

**А. Галубіцкі**

# Адказ сп. Мікалаені

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

узятае з нашае мовы. Пасьлей «хво», «хву», зьмяніліся ў «хо», «ху». Сталася гэта так, што вусьнянае «в», асабліва блізкое ў нашай мове да **ў**, зьлілося з вусьняным **о** і **у** у вадно «о», «у». Што гэтак сталася , бачым із таго, што ў некаторых гаворках нат **хва** зьмянілася ў «ху». Прыкладам у гаворцы полацкай «хвала» зьмянілася ў **хула** («Хула Табе, Божа!» — кажуць там) за пасярэдніцтвам «хвула». З тае самае прычыны, чаму маем пісаць **хорма**, але **«формальны»**, пішам **Тахвіля**, але **тэолёгія.** Ведама, кажнае ненацісьненае **эо, эа** вымаўляецца ў беларускай мове, як **аа**, каторае ў словах знародненых скарачаецца **ў а**; пры борздай вымове гэта бывае і не ў знародненых.

Калі-б у нас пісалі **хвілязопія, таазопія**, а нат **тазопія**, дык гэта таксама было-б згодна з духам беларускае мовы, але гэта быў-бы канцавы радыкалізм, і ён мусіў-бы быць ня толькі ў прыпадках зьмены **ф** у **хв, х, п**, а ненацісьненых **эо** ў **а**, але і ў усіх іншых прыпадках, а ў нашым грамадзтве да гэтага так далёка, як ад зямлі да неба. Дык дзе ўжо зь ім сунуцца. Апрача таго мова ёсьць люстра гісторыі культуры, і калі мы маем **Тахвіля, літара, Ванэля,** але «теозофія», дык гэта сьветча, што спакмяні, абазначаныя першымі трыма, цэлыя вякі ўжо свае ў нашым народзе, тымчасам як із тэозофіяй азнаёмлена яшчэ цяпер толькі некатарая часьць інтэлігенцыі.

Да агульных выясьненьняў пра цэлыя катэгорыі словаў я часта адсылаю ў «Кутку мовы», адылі гэта мала памагае, з розных прычынаў, між іншага, дзеля таго, што не заўсёды кажнаму лёгка залічыць тое або іншае слова да належнае катэгорыі. А ёсьць і такія словы, што нікуды й залічыць іх нельга. Куды залічыш, прыкладам, націск на **о** ў словах **морскі, ночны?** Дзеля таго трэба зварочаваць **увагу і на асобныя словы**; а што іх дзесяткі тысячаў, дык і на гэта людзі знайшлі раду - выдаюць слоўнікі. І пакуль у нас ня будзе выданы добры слоўнік, датуль і наша літаратурная мова ня будзе добрая. А пакуль што, каб хоць крыху памагчы ў гору, даводзіцца разглядаць асобныя словы ў газэце. Гэтак робяць і іншыя народы, а мы розьнімся ад іх тым, што разглядаем толькі ў газэце ды маем прыемнасьць чытаць «крытыку» сп. Мікалаені.

Наапошку, што да **Ванэля.** Калі гэтае слова даўгія вякі ў нас ужывалася ў жаноцкім родзе, а ў стагодзьдзю XX некаторыя інтэлігенты пачалі яго ўжываць у родзе ніякім, дык гэта магло стацца толькі пад уплывам расейскім, бо іншыя ўплываючыя на нас мовы ня маюць яго ў родзе ніякім. Не магло гэта паўстаць і пад уплывам мовы царкоўна-славянскае, бо яна ня ўплывае на нашую мову. З гэнага-ж жаноцкага роду слова «Эванэлія» (вымаўлялася **Аванэля,** як Аміля і пад.) паўстала **Ванэля** (быццё гэтае хормы сьцьвярджае й М.), у каторым пачатнае **а** адпала, як прыкладам, у «спадар» з «гаспадар» (за пасярэдніцтвам **«аспадар»**), з тэй адно розьніцаю, што ў гэтым захаваліся абедзьве хормы, бо сталася дыфэрэнцыяцыя значэньняў.

Кажная мова тарнуе пазычэньні да сваіх асаблівасьцяў і з гэтым трэба лічыцца. Мала назіраць (хоць-бы із жонкаю) ангельскія перакручаньні, але трэба яшчэ ўмець адрозьніваць перакручаньні ад нармальнага прытарнаваньня чужых словаў да праваў тае мовы, у каторую яны ўвайшлі.

**18. X. 1955.**

**Я. Станкевіч**

*Фэльетон*

# *ЗАЛАТЫЯ ЧАРАВІЧКІ*

(«Зьвязда», 2.10.55)

Увесь час машына працавала спраўна, і раптам вышлі із строю тармазы. Няхітрая гэта штука — тормазны камплект, каштуе якіх 6 рублёў 50 капеек, але машына безь яго, як кажуць, «і ні туды, і ні сюды». Калгасны шофэр Адам Міхнавец узяў камандыроўку ў Слуцак, спадзяючыся знайсьці там тормазны камплект.

— Ты што, чалавеча, зь неба зваліўся, ці што? Ды мы гэтага камплекту ў вочы ня бачылі!

Пасьля такога красамоўнага адказу ў міжраённым аддзеле «Галоўаўтатрактаразбыту» Міхнаўцу нічога іншага не заставалася, як вярнуцца ў Старобін. Вярнуўся, а тут аказія: старшыню калгасу выклікаюць у Менск на нараду.

— Ну, Арцёмавіч, уся надзея на вас! Бяз тормазнага камплекту зь Менску не вяртайся.

— Ды ўжо як-небудзь будзе, — судакоіў старшыня шофэра. — Ня можа гэтага быць, каб у Менску такой дробязі не знайшлося.

Але гэта аказалася зусім ня так лёгка, як здавалася на першы погляд.

Прыехаўшы ў Менск, старшыня перш за ўсё кінуўся ў міжраённы аддзел «Галоўаўтатрактаразбыту». Кіраўнік аддзелу тав. Тышкевіч холадна абрэзаў:

— Няма ў нас на складзе такіх дэталяў.

Старшыня асьмеліўся далікатна не згадзіцца.

— Кладаўшчык-жа сьцьвярджае, што тормазныя камплекты ёсьць, — заўважыў ён.

— Мала, што могуць казаць людзі! А вы, уласна кажучы, хто?

— Старшыня калгасу «Чырвоны пагранічнік» Старобінскага раёну Міхнавец.

— Даражэнькі! Дык чаго-ж вы да нас прыйшлі? Навет калі-б у мяне горы гэтых камплектаў былі, я вам ніводнага ня даў-бы. Вы-ж ня нашага раёну!

— Але-ж вобласьць адна...

— Ідзеце і не перашкаджайце працаваць!

— Міхнавец, засмучоны такой няўдачай, пайшоў у Міністэрства сельскай гаспадаркі. «Ня можа быць, каб тут не дапамаглі!». Першым, да каго ён трапіў быў тав. Сафронаў — начальнік галоўнае ўправы мэханізацыі й электрыфікацыі. Той уважліва выслухаў усю гісторыю і накіраваў старшыню да інжынера тав. Кудзелькі. Гэты таксама выслухаў ня менш уважліва і, уздыхнуўшы, із спачуваньнем сказаў:

— Ведаю, ведаю! Тормазны рамкамплект — надзвычай дэфіцытны тавар. На складах іх пакуль што няма.

— Як-жа няма, — пачаў траціць цярплівасьць старшыня, — калі я ведаю, што ёсьць.

— Дзіўна. Ну, а калі так — пішэце заяўку на камплект.

Старшыня, баючыся, каб інжынер не перадумаў умомант напісаў заяўку. Тав. Кудзелька наклаў рэзалюцыю і прапанаваў зайсьці да старэйшага інжынера Рэспубліканскай канторы «Галоўаўтатрактаразбыту» тав. Вяршыніна. Тав. Вяршынін паслаў да кіраўніка канторы тав. Рымскага. Тав. Рымскі аказаўся чалавекам справы. Ён узяў заяўку, чыркануў там яшчэ адну рэзалюцыю і сказаў толькі тры словы:

— Да тавараznаўца Рухмана.

Зьнясілены ад доўгіх блуканьняў старшыня накіраваўся да тав. Рухмана. «Ну, гэты ўжо напэўна скране справу зь месца!» — абнадзейваў ён самога сябе.

— Вам тормазны рамкамплект? Калі ласка. Адну хвілінку, мы гэта зараз уладзім.

Тав. Рухман зьняў тэлефонную трубку і набраў нумар.

— Менскі аддзел «Галоўаўтатрактаразбыту»? Паклічце да тэлефону Ніну Дэлег... Ніначка? Вось тут у мяне сядзіць старшыня калгасу із Старобінскага раёну. Яму патрэбны тормазны камплект. Выдай яму, калі ласка! — Ну, вось і ўсё — тав. Рухман павярнуўся да Міхнаўца: — Лічэце, што тормазны камплект у вашай кішэні!

Рашчулены старшыня ад радасьці ледзь не расцалаваў Рухмана. Але пакуль ён дарбаўся да міжраённага аддзелу «Галоўаўтатрактаразбыту», адкуль пачаўся ягоны пакутлівы шлях, Ніначка перадумала.

Я не магу адпусьціць такую дэталь без тав. Тышкевіча, а яго цяпер няма. Пачакайце, можа ён хутка прыедзе.

Страціўшы ўсякую цярплівасьць, старшыня памянуў добрым словам усіх бюракратаў і, бразнуўшы дзвярыма выйшаў. На вуліцы яго дагнаў падозраны тып у макінтошы.

— Я чуў, вам патрэбен тормазны камплект, — ціха сказаў ён, азіраючыся па бакох.

— Братка, няўжо ён у цябе ёсьць? — Міхнавец учапіўся за рукаў незнаёмага.

— Ёсьць ... 50 рублёў.

Старшыня выпусьціў рукаў.

— Пабойся ты Бога, чалавеча! Яму-ж цана 6 рублёў 50 капеек.

— Ну, ня хочаш, дык ня трэба! — незнаёмы падаўся ўбок.

Але Міхнавец, прыгадаўшы ўсе свае блуканьні па кабінэтах, пасьпешліва закрычаў:

— Пачакай, куды ты? Давай камплект...

У свой час самымі цяжкімі лічыліся прыгоды гогалеўскага каваля Вакулы, які хацеў дастаць залатыя чаравічкі для свае нарэчанае. Але Вакуле навет і ня сьнілася тое, што давялося перанесьці Міхнаўцу. Няма сумлеву, што калі-б у Вакулы на дарозе стала столькі бюракратаў засталася-б ягоная нарэчаная без залатых чаравічкаў. Не дапамог-бы Вакуле і чорт, якога ён насіў у кішэні.

**М. Якушаў**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**